www.nv-online.info

№ 51 (4098)

5 ліпеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Шаноўныя чытачы!

*Каб нас, прыхільнікаў дэмакратыі, было болей, давайце далучым да кола падпісчыкаў «Народнай Волі» новых сяброў. Для таго, каб атрымліваць газету з 1 жніўня, ім трэба аформіць падпіску да 27 ліпеня.*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

# Чаму Лукашэнку не патрэбны «чыкагскія хлопчыкі»

Вы ж чулі: памочнік прэзідэнта Кірыл Руды з'язджае паслом у Кітай. Журналісты незалежных выданняў шкадуюць, бо на тле шэрых без'языкіх чыноўнікаў гэты прагрэсіўны эканаміст, які не хаваўся ад прэсы, быў каштоўным ньюсмейкерам. Не сказаць каб на пасадзе ў Адміністрацыі Руды выглядаў такім ужо рэвалюцыянерам, радыкалам (ды і хто б там такога трымаў?). Але нават тое, што ён некалі стажыраваўся ў Чыкага як стыпендыят фінансаванай урадам ЗША праграмы Фулбрайта, было штрыхом экзатычным на тле панавання ў айчыннай наменклатуры "моцных гаспадарнікаў" савецкай загартоўкі. Увогуле ж, Руды проста ставіў сумленны дыягназ беларускай эканоміцы, услых казаў пра тое, пра што іншыя чыноўнікі лічылі за лепшае не вякаць, каб не злаваць галоўнага начальніка.

Чаму Аляксандр Лукашэнка два гады трымаў пры сабе такога раздражняльніка? Магчыма, каб стварыць ілюзію новых павеваў у эканамічнай палітыцы, пусціць пыл у вочы заходнікам дзеля атрымання крэдытаў, інвестыцый. А можа, афіцыйны лідар і насамрэч хацеў сутыкнуць аргументы двух лагераў – адэптаў саўковай мадэлі і прыхільнікаў структурных рэформаў. З розных трыбун ён і сам разпораз спрачаўся з апошнімі, і тое, што менавіта палемізаваў, а не спяшаўся вычышчаць Рудага ды іншых рыначнікаў жалезнай мятлой, выдавала ўнутраную барацьбу. Бо ўжо і хатнім гаспадыням стала зразумела, што "беларуская мадэль развіцця" капітальна села ў галёш, трэба нешта рабіць.

Але ўсё, на што стала духу, – гэта даць адмашку на болей жорсткую манетарную палітыку. Фактычна людзям замарозілі даходы (пры тым што цэны не спыніш). Ды яшчэ ўзнялі камунальныя тарыфы, прыдумалі новыя паборы, павысілі пенсіённы ўзрост. Але гэта не столькі рэформы, колькі банальная абдзіралаўка. Бо эканоміка застаецца збольшага дзяржаўнай. Нават калі шыльды на прадпрыемствах мяняюцца, усё адно яны кіруюцца зверху, дырэктары ходзяць па струнцы.

Кранаць жа гэту прымітыўную канструкцыю страшна. Бо яна дае кіроўнай вярхоўцы непадзельную ўладу над краінай, яе рэсурсамі – як матэрыяльнымі, так і чалавечымі. Чым болей беларусаў пачуваюцца "государевыми людьми", тым прасцей трымаць народ у падпарадкаванні. Лукашэнку відавочна раздражняе само слова "прыватызацыя". Бо калі эканоміка стане збольшага прыватнай, як у развітых краінах (у нас жа прыватнік пад пятой дзяржавы, нават "алігархі" – марыянеткі), то пачне ўмацоўвацца слой самастойных людзей з грашыма (бізнесоўцы, сярэдні клас), якім патрэбны палітычныя ды грамадзянскія свабоды, незалежны суд, вольная прэса і г.д. А гэта патыхае ўжо расхістваннем сістэмы.

І таму яе канструктар, узважыўшы довады прагрэсістаў, відавочна, вырашыў не рызыкаваць, абраў самую прымітыўную стратэгію – неяк перасядзець кепскія часы. Прычым адмаўляючы нават, што крызіс ёсць. Хоць тут народ з правадыром катэгарычна не згодны: паводле чэрвеньскага апытання НІСЭПД (зарэгістраваны ў Вільнюсе), 81% беларусаў мяркуюць, што наша эканоміка – акурат у крызісе. І перасядзець не пашэнціць – гэта вынікае з выкладак таго ж Рудага, экспертаў МВФ. Паводле кіраўніка місіі МВФ у Беларусі Пітэра Долмана, *"з паскарэннем рэформаў эканамічны рост у Беларусі можа нават перавысіць 4,5% за год"*. Заўважце: гэта вышэйшы тэмп, чым нядаўна зацверджаны на пяцігодку Усебеларускім сходам. Але ж – пры ўмове структурных рэформаў.

Аднак Лукашэнка, мяркуючы па ганаровай ссылцы Рудага ў Кітай, на сёння не гатовы рабіць стаўку нават на памяркоўных рэфарматараў. Відаць, таму ж у свой час выпіхнулі з пасады віцэ-прэм'ера Сяргея Румаса, які таксама выглядаў белай варонай на тле старой гаспадарчай гвардыі. Такім чынам, мы бачым, што дзеля захавання палітычнага рэжыму дэ-факта абіраецца шлях павольнай дэградацыі краіны.

Прызначэннем жа Рудага ў Пекін Лукашэнка, мусіць, хоча прасунуць наш экспарт туды. Але ж мы прадаём у КНР пераважна сыравіну: летась 80% склаў калій, а цэны на яго цяпер не надта якія. Што ж да высокатэхналагічных тавараў, то кітайцы ўжо заткнулі нас за пояс. І тут мы таксама ўпіраемся лбом у пытанне рэформаў, без якіх прадукцыя айчынных прадпрыемстваў страчвае канкурэнтаздольнасць. І дыпламаты хай хоць са скуры вылузнуцца, але збываць айчынны неліквід для іх будзе ўсё болей няўдзячнай задачай.

У свой час нават генерал Піначэт з яго змрочнай палітычнай рэпутацыяй зладзіў у Чылі, дзе эканоміка была развалена сацыялістамі, даволі эфектыўныя рыначныя рэформы (іншая рэч, што потым іх плён змарнавалі новыя папулісты). Прычым зладзіў з дапамогай так званых чыкагскіх хлопчыкаў – маладых эканамістаў амерыканскай школы. Беларускаму ж аўтарытарнаму кіраўніку "чыкагскі хлопчык" Руды, як і іншыя эканамісты з сучаснымі поглядамі, пакуль што не надта патрэбны. Самае ж прыкрае, што калі прыпрэ (а так яно і будзе), дык давядзецца ісці на рэформы праз "не хачу". Але і тады іх стануць рабіць, адсякаючы хвост часткамі (такі ўжо менталітэт на самым версе!). Так што беларусы, якіх нібыта аберагаюць ад шокавай тэрапіі, насамрэч сербануць ліха вялікай лыжкай.

А пакуль што галоўны начальнік хваліцца новай зброяй – сістэмай "Паланэз" ды на тле эканамічных правалаў раздзімае тэму бяспекі, абароны краіны. Але "Паланэзы" не ўратуюць, калі Беларусь будзе эканамічна слабай, залежнай. Калі дэградацыя прадоўжыцца, то праз нейкі час ушчэнт змарнелую краіну можна будзе браць голымі рукамі. І ўсім вядома, хто ў гэтым перш-наперш зацікаўлены…

СТОП-КАДР



У нядзелю ў многіх месцах Мінска, можна сказаць, быў патоп.

ПАД ГРАДУСАМ

## Прагназуецца няўстойлівае халаднаватае надвор'е

На гэтым тыдні чакаецца няўстойлівае халаднаватае з дажджамі надвор'е, паведаміў БелаПАН начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый РАБАЎ**.

Умовы надвор'я на тэрыторыі Беларусі ў асноўным будзе вызначаць халаднаватая няўстойлівая паветраная маса і атмасферныя франты, якія наступаюць з Заходняй і Паўночна-Заходняй Еўропы.

У аўторак пераважна па паўночнай палове краіны кароткачасовыя дажджы. У асобных раёнах навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +8…+13°С, максімальная днём +18…+24°С.

У сераду ноччу месцамі, днём на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы. У асобных раёнах навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +10…+17°С, максімальная днём +20…+27°С.

У чацвер на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы. Днём месцамі ўзмацненне ветру парывамі да 15–20 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +9…+16°С, максімальная днём +17…+23°С.

У пятніцу месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Па поўначы ўзмацненне ветру парывамі да 15–18 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +9…+15°С, максімальная днём +19…+25°С.

У суботу на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +9…+16°С, максімальная днём +17…+23°С, па паўднёвым усходзе да +25°С.

У нядзелю ў асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +9…+16°С, максімальная днём +20…+27°С.

ТРАГЕДИЯ

## Число погибших при терактах в Багдаде превысило 200 человек



На вчерашний день число жертв терактов в Багдаде возросло до 213. В Ираке объявлен трехдневный траур. Премьер-министр Хайдер аль-Абади призвал «найти и сурово наказать» тех, кто организовал взрывы в столице.

Глава правительства также распорядился усилить меры безопасности в Багдаде и в целом по стране, в том числе демонтировать неработающие металлодетекторы, которые стоят на большинстве блок-постов, и заменить их на исправные.

В ночь на воскресенье, 3 июля, в иракской столице произошли два взрыва – у ресторана в центральном районе Карада и возле рынка в северном районе Аш-Шааб. Атака террористов пришлась на разгар священного для мусульман месяца Рамадан, когда верующие делают покупки к празднику.

Ответственность за произошедшее взяла на себя террористическая группировка «Исламское государство» (ИГ).

В Багдаде теракты связали с наступлением иракской армии на Эль-Фаллуджу – оплот боевиков «Исламского государства». Этот населенный пункт расположен в западной провинции Анбар и находится под контролем ИГ, начиная с 2014 года.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## За што паэт патрапіў у «Навінкі»?

*Учора з псіхіятрычнай бальніцы выпусцілі паэта Славаміра Адамовіча, якога пратрымалі там некалькі дзён.*



– Амаль два дні я знаходзіўся ў дыспансеры па прадпісанні мядзельскіх дактароў, – распавёў "Народнай Волі" Славамір Адамовіч. – Забралі мяне з "Буслаўскага фэсту".

**– Вы сябе агрэсіўна паводзілі?**

– У параўнанні з нашымі ціхімі талерантнымі людзьмі, можа быць, мяне можна лічыць і агрэсіўным. Там, дзе я збіраўся прайсці на фэст, людзі ў цывільным прапанавалі мне выкласці рэчы для надгляду. Я адмовіўся рабіць гэта ўласнаручна. Маўляў, вось мая торба, а таму трасіце яе самі. З гэтага і распачаўся канфлікт. Калі я жыў у Нарвегіі, то там таксама былі надгляды падчас нейкіх канцэртаў і акцый, дзе прысутнічае ўзбуджаная моладзь, якая прыходзіць і з півам, і з больш моцнымі напоямі. Але, на маю думку, пераўтвараць такое традыцыйнае касцельна-царкоўнае свята, як "Будслаўскі фэст", у міліцэйскі "шмон" – гэта непрымальна.

**– Кажуць, што вы былі нападпітку…**

– Шчыра кажучы, так. Я рэдка прыязджаю ў сваю родную вёску Альхоўка, а таму зараз, падчас чарговага прыезду, сустрэўся з блізкімі і знаёмымі, пасядзелі за сталом… Пасля гэтага і адправіўся на "Будслаўскі фэст" на веласіпедзе з фотаапаратам. Але, мяркую, канфлікт узнік не з-за таго, што я быў, што называецца, пад градусам. Я не апраўдваюся, але былі выпадкі, калі мяне і цвярозага правакавалі на нейкую агрэсію і затрымлівалі.

**– Што вы рабілі два дні ў псіхіятрычнай клініцы? Праходзілі нейкі курс лячэння?**

– Трэба аддаць належнае дактарам гэтай установы, паводзіны былі абсалютна прыстойныя, з іх боку, як кажуць, не было ніякіх лішніх рухаў. Таму два дні папіў заспакаяльныя таблеткі, пасля чаго мяне адпусцілі дадому, не выпісваючы нейкіх страшных дыягназаў.

**– Можа, усё ж такі высвятляць адносіны з прадстаўнікамі ўлады лепш на цвярозы розум?**

– Адны лічаць так, у некага іншае меркаванне… Паўтаруся, справа тут не ў алкаголі, а ў тым, што, я лічу, не павінна быць праверак падчас такога свята. Гэта ж проста дзіка выглядае, калі ў бабулек забіраюць нейкія слоікі са святой вадой, жанчын прымушаюць даставаць шпількі з валасоў… Я супраць такога падыходу быў і буду. Я супраць гэтага і нападпітку, і цвярозы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



# Іх лёс хвалюе Беларусь!



**Юрый ЗАХАРАНКА**
знік 6267 дні таму



**Віктар ГАНЧАР**
знік 6135 дзён таму



**Анатоль КРАСОЎСКІ**
знік 6135 дзён таму



**Дзмітрый ЗАВАДСКІ**
знік 5840 дзён таму

ЕВРО-2016

# …И плакали итальянцы

*В полуфиналах чемпионата Европы по футболу сыграют сборные Германии и Франции, Португалии и Уэльса.*

Это, на мой взгляд, несправедливо, когда болельщикам пришлось смотреть матч сборных Италии и Германии уже в четвертьфинале турнира. Игра была достойна финала! Сколько было драмы, непредсказуемости, эмоций! Противостояние в серии пенальти двух великих вратарей **Мануэля Нойера** и **Джанлуиджи Буффона**, победа немецкой команды, слезы итальянцев…

«*Я никогда не участвовал в таком невероятном матче*, – сказал после игры немецкий вратарь. – *Вот это серия пенальти! Настоящая драма! Три моих партнера не забили пенальти, и мы все равно выиграли. Жаль, что не выиграли в основное и дополнительное время. Но Италия билась блестяще! Нам пришлось безумно трудно. Конечно, мне было нелегко в серии пенальти. Дикое испытание для нервов*».




А защитник сборной Италии **Андрей Бардзальи** произнес после поражения, наверное, самую проникновенную речь на Евро-2016.

«*Это огромное разочарование. Мы отдали все, что можно. От всего того хорошего, что мы сделали, осталось только поражение. Через несколько лет все забудут об этой команде. Никто не вспомнит об этой сборной Италии, которая выложилась на все сто. Простите нас!*» – сказал Бардзальи и заплакал, не скрывая перед камерой мужских слез.

Жаль, конечно, и сборную Исландии, которая в минувшее воскресенье крупно уступила французам – 2:5. Как говорят, сказке пришел конец, хотя исландская команда влюбила в себя многих болельщиков, а ее выход в четвертьфинал – уже безусловный успех. В Исландии больше действующих вулканов, чем профессиональных игроков. В стране, где всего чуть более трехсот тысяч жителей, насчитывается около 23.000 футболистов, но лишь 120 исландцев имеют статус футболиста-профессионала. Действующих вулканов же на острове насчитывается 126. Так что – браво, Исландия!

Кстати, Гудни Йоханнессон, который недавно победил на президентских выборах в Исландии, приехал во Францию смотреть чемпионат Европы вместе с обычными болельщиками. Йоханнессон ходил на каждый матч своей сборной с женой и сыном. И ничего – корона не упала! Достойный пример для подражания для некоторых президентов.

Не будем делать прогнозы на полуфиналы, а лишь отметим, что нас ждет еще один увлекательнейший поединок, когда встретятся сборные Франции и Германии. Для немецкой команды, кстати, Евро-2016 – уже 12-я подряд финальная стадия чемпионата Европы, что является абсолютным рекордом. Таким образом, немцы играют на европейских первенствах на протяжении 48 лет, за это время они трижды становились чемпионами Европы (в 1972, 1980 и 1996 годах) и еще трижды просто выходили в финал (в 1976, 1992 и 2008 годах).

…А пока 8-килограммовый кубок ждет своего нового хозяина. Создатели кубка – известная ювелирная фирма Asprey London – утяжелили его на 2 килограмма и вытянули на 18 сантиметров. Приз по-прежнему носит имя Анри Делоне – французского функционера, автора идеи чемпионатов Европы. Награда найдет своего героя 10 июля.

**Алесь СИВЫЙ.**

**P.S.** *В полуфинальных поединках встретятся 6 июля сборные Уэльса и Португалии, 7 июля – Германии и Франции.*

ФУТБОЛ

# Мінскае «Дынама» пайшло на павышэнне

*У мінулую нядзелю некалькімі матчамі завяршыўся 15-ы тур чэмпіянату краіны па футболе ў вышэйшай лізе.*



На фоне чэмпіянату Еўропы па футболе, які гэтымі днямі праходзіць у Францыі, беларускае першынство, можа быць, і не так ярка глядзіцца, але тым не менш… У беларускіх клубаў таксама ёсць і свой глядач, і свой балельшчык.

Вынікі тура: “Крумкачы” (Мінск) – “Мінск” – 0:1, “Нафтан” (Наваполацк) – “Нёман” (Гродна) – 2:0, “Слуцк” – “ Іслач” (Мінскі раён) – 2:2, “Гарадзея” – БАТЭ (Барысаў) – 1:1, “Віцебск” – “Дынама” (Брэст) – 1:0, “Дынама” (Мінск) – “Славія” (Мазыр) – 1:0, “Граніт” (Мікашэвічы) – “Белшына” (Бабруйск) – 0:4.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 14 | 10 | 2 | 2 | 35–15 | 32 |
| 2. Дынама (Мн) | 15 | 7 | 5 | 3 | 21–16 | 26 |
| 3. Мінск | 15 | 7 | 4 | 4 | 20–16 | 25 |
| 4. Крумкачы | 15 | 7 | 3 | 5 | 16–17 | 24 |
| 5. Шахцёр | 14 | 7 | 3 | 4 | 18–10 | 24 |
| 6. Гарадзея | 15 | 6 | 4 | 5 | 17–15 | 22 |
| 7. Іслач | 14 | 6 | 3 | 5 | 19–18 | 21 |
| 8. Тарпеда-БелАЗ | 14 | 5 | 5 | 4 | 19–16 | 20 |
| 9. Граніт | 15 | 4 | 8 | 3 | 14–18 | 20 |
| 10. Віцебск | 15 | 6 | 1 | 8 | 14–12 | 19 |
| 11. Славія | 15 | 5 | 4 | 6 | 18–21 | 19 |
| 12. Белшына | 15 | 4 | 5 | 6 | 23–24 | 17 |
| 13. Дынама (Бр) | 15 | 4 | 3 | 8 | 19–29 | 15 |
| 14. Нафтан | 15 | 3 | 5 | 7 | 12–18 | 14 |
| 15. Слуцк | 15 | 3 | 5 | 7 | 13–22 | 14 |
| 16. Нёман | 15 | 2 | 4 | 9 | 7–18 | 10 |

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Даша можа пераязджаць у свой дом ужо ў жніўні…»

*Карэспандэнт “Народнай Волі” наведаўся на будоўлю дома трохразовай алімпійскай чэмпіёнкі Дар’і Домрачавай і пацікавіўся, ці будзе гатовы ён прыняць яе пасля нараджэння дзіцяці.*




Вёска Лапаровічы, якая знаходзіцца на беразе Мінскага мора (Заслаўскага вадасховішча), – прывабнае месца для жыцця. Недалёка ад горада (каля 12 кіламетраў ад кальцавой дарогі), прыгожы від на Мінскае мора… Адным словам, лепш і не прыдумаеш. Вёсачка не вельмі вялікая, і зараз яна падзелена, так бы мовіць, на дзве часткі. У адной стаяць дамы мясцовых жыхароў, у другой – катэджы. Яшчэ ў 2009 годзе вёска пачала пашырацца: сельсавет вызначыў 76 участкаў для індывідуальнай забудовы.

Да слова, менавіта ў Лапаровічах было лецішча беларускага “песняра” Уладзіміра Мулявіна, дзе ён, па расказах мясцовых жыхароў, любіў адпачываць у вольны час. Праўда, пасля гібелі кіраўніка “Песняроў” дом пэўны час знаходзіўся без дагляду, пакуль сельсавет не звярнуўся да блізкіх Мулявіна, каб яны вырашылі лёс лецішча. Здаецца, на ім цяпер новыя гаспадары.

Дом Героя Беларусі **Дар’і Домрачавай** знайсці вельмі лёгка. І нават калі вы яго не вызначыце, то вам “карабель” пакажа кожны мясцовы жыхар. Перш за ўсё пабудова адрозніваецца ад астатніх сваёй незвычайнай архітэктурай. І здзіўляцца тут няма чаму. Маці біятлоніcткі – Ларыса Аляксееўна – архітэктар. Брат Мікіта працуе ў творчай майстэрні свайго айчыма – вядомага архітэктара Барыса Школьнікава. Дарэчы, паводле некаторых звестак, менавіта Мікіта і з’яўляецца аўтарам праекта дома, які нагадвае карабель.



Яшчэ год таму будоўля ішла маруднымі тэмпамі, але зараз работа кіпіць ужо з самага ранку. Тут таксама ўсё зразумела. У красавіку вядомы нарвежскі біятланіст **Оле-Эйнар Б’ёрндален** паведаміў на прэс-канферэнцыі пра тое, што ў іх з Домрачавай будзе дзіця. А пазней сама спартсменка распавяла, што папаўненне ў сям’і варта чакаць восенню гэтага года. Зразумела і жаданне будучай маці падрыхтаваць да нараджэння дзіцяці прыстойнае жыллё.



Дом спартсменкі – на першай берагавой лініі, што лічыцца асаблівым шыкам. Дашыны суседзі – таксама досыць вядомыя асобы. Можна будзе схадзіць у госці да трэнера па біятлоне Андрыяна Цыбульскага альбо завітаць на гарбату (калі Б’ёрндален дазволіць) і пацікавіцца развіццём айчыннага футбола да футбалістаў Аляксандра Глеба, Віталя Радзівонава ці Аляксандра Юрэвіча. У некалькіх метрах ад дома біятланісткі і ўчастак яе маці.

Ля дома з 8 гадзін раніцы працуе трактар – рабочыя ўпарадкоўваюць тэрыторыю вакол дома. Там яшчэ шмат усялякага смецця, недалёка – выспы зямлі, але будаўнікі з вышыні свайго вопыту глядзяць на гэтую справу па-філасофску: “*Сёння ёсць смецце, а заўтра яго няма*”.

– Пры жаданні Даша можа сюды ўжо ў жніўні пераязджаць, – дадаюць мне. – Аздабленне ў доме практычна закончана, а добраўпарадкаванне тэрыторыі зойме максімум два тыдні. Зараз будзем займацца азеляненнем.

Будаўнікі рабілі рамонты і іншым VIP-персонам, але не прызнаюцца, каму канкрэтна. Не дазваляюць зрабіць фотаздымкі і ўнутры дома.

– Зразумейце нас правільна: гэта прыватная тэрыторыя, – нібыта апраўдваліся суразмоўцы. – А мы ўсяго толькі наёмныя работнікі, якія не распараджаюцца гэтай тэрыторыяй. Узгадняйце ўсе пытанні з гаспадарамі дома ці іх блізкімі. Вам жа, напэўна, таксама будзе непрыемна, калі да вас у хату прыйдуць незнаёмыя людзі, проста каб паглядзець рамонт на кухні?

Участак Дар’і Домрачавай – каля 25 сотак, дом у некалькі ўзроўняў займае 500 квадратных метраў. Ён, дарэчы, пабудаваны па энергазберагаючых тэхналогіях – выкарыстаны шклопакеты, якія запоўнены аргонам. Мэблі там ніякай пакуль няма, бо будаўнікі “*даводзяць пакоі да бляску*”.

– У нас кантроль сур’ёзны, – кажуць яны. – Ларыса Аляксееўна наведваецца, Мікіта… Шчыра скажам, не адзін раз даводзілася і выпраўляць нешта. А вось няпраўда, што будаўніцтвам кіруе Б’ёрндален. Можа быць, калі-небудзь і прыязджаў з Дашай, каб проста паглядзець на жыллё, але якое ж гэта кіраўніцтва? Тут і так ёсць каму кіраваць. Дарэчы, вось закончым будаўніцтва дома, можам, калі спатрэбіцца, і вам у кватэры рамонт зрабіць. 70 долараў за квадратны метр без уліку будаўнічых матэрыялаў…

**Алесь СІВЫ.**

ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

# 8–9 ліпеня:

## VIII Усебеларускі фестываль народнага гумару ў Аўцюках

Не, без гумару, жартаў, анекдотаў з перчыкам, вясёлых прыпевак беларусы ніколі не абыходзіліся. І сёння, калі жыццё падкідвае тысячы задачак, дасціпнае слоўка ой як падтрымлівае настрой! Таму добра, што ў мінулым нумары “Народнай Волі” дана абвестка пра тое, што 8–9 ліпеня 2016 года адбудзецца VIII Усебеларускі фестываль народнага гумару ў Аўцюках, што ў Калінкавіцкім раёне. Прадоўжыце, калі ласка, друкаваць смяшынкі з кнігі Уладзіміра Ліпскага “Над Аўцюкамі тармазні”.

**Іван КАРПЫЗА.**




### Над Аўцюкамі тармазні

* * *

Едзе камісія ў Аўцюкі. Бачаць: аўцюк яму капае. Цікавяцца:

– Навошта табе яма летам?

– Дак трэба, каласок, зняцца на картку.

– А яма навошта?

– Дак сказалі ж зняцца па пояс.

Пабыла камісія ў вёсцы. Едуць назад. Той аўцюк другую яму капае.

– Навошта табе дзве ямы?

– Дык сказалі ж – дзве фоткі трэба.

* * *

Аўцюка паставілі аўтаінспектарам на шумнае гарадское скрыжаванне. Праз дзень заяўляе начальніку:

– Таварыш маёр, пастаўце на цішэйшую вуліцу. Не магу разабрацца, хто куды едзе…

* * *

Вярнуўся аўцюк з лесу. Рэзаў дровы. Стаміўся. Сеў і есць проста з каструлі.

Уваходзіць жонка ў хату:

– Што сабаку дам?

– Сабаку, калінка, свежага зварыш.

* * *

Маці просіць сына:

– Юрась, падмажы рваць буракі.

Юрась, вучань другога класа, адказвае:

– Ага, хочаш, каб мае рукі былі такія чорныя ад буракоў, як у настаўніцы…

* * *

– Што робіш, дзядзька?

– Не бачыш, каласок, камяні збіраю.

– Навошта яны табе?

Аўцюковец змікіціў, што прахожы з яго насміхаецца. Сур’ёзна адказвае:

– Няўжо не чуў, каласок? Іх нарыхтоўшчыкі цяпер з рук вырываюць, толькі давай.

– Ты што?

– Ага, каласок, у горадзе камяні мелюць і вырабляюць пудру.

Прахожы пачаў бегаць па палетку і збіраць камяні.

* * *

Малы аўцюк даклэпаў да магазіна. Звяртаецца да прадаўшчыцы:

– Калінка, мне тры бутэлькі піва!

– Ты ж не данясеш!

– Я адну на месцы вып’ю, а дзве дацягну…

* * *

– Калі няма работы, што робіш?

– Сяджу, каласок, і думаю.

– А калі работа ёсць?

– Толькі сяджу…

* * *

Аўцюковец вешаўся. Прывезлі да псіхіятра. Лячылі два месяцы. Сабралася камісія: ці здаровы?

Пасля праверак і роспытаў старшыня камісіі цікавіцца:

– Што будзеш рабіць, як вернешся дадому?

– Жонку, каласок, пацалую.

– А тады што?

– Сена карове дам.

– А тады?

– Дроў накалю.

– Ну, а далей?

– Пасля, каласок, як баба не налье, пайду дай павешуся.

* * *

Леглі спаць. Бацька правярае, ці заснулі хлопцы.

– Ваня, падай вады.

Маўчок.

– Сеня, падай вады.

Цішыня.

– Толя, падай вады.

Чуваць, як гадзіннік чэкае.

– Міша, падай вады.

Цішыня.

Бацька толькі павярнуўся да маці, у гэты міг Ваня падносіць кубак вады.

– Татка, ты прасіў?..

* * *

Міліцыянер-аўцюк шафёру:

– Ты, каласок, далей ехаць не зможаш.

– Чаму?

– У цябе вельмі мала крыві ў алкаголі.

* * *

– Мама, наш певень здурнеў?

– Чаму?

– Адкрывала куратнік, а ён як кінецца на курэй, давай іх кляваць ды валяць. Ледзь адагнала палкай…

– А гусі як паводзяць?

– Ой, мама, гусак гуску б’е і б’е. Хоча яе ўтапіць. Залезе наверх і дзюбай, дзюбай клюе. Пад ваду заганяе…

* * *

Сядзяць дзед і баба, абедаюць. Баба хрась дзеду лыжкай па лбе.

– За што, калінка?!

– За тое, што некалі пазбавіў мяне дзявоцкасці.

Сядзяць, ядуць.

Раптам дзед б’е бабе лыжкай па галаве.

– За што, каласок?!

– Каб дурныя думкі ў мазгі не лезлі…

* * *

Купіў дзед Яўхім карову на базары, хваліцца:

– Рахманая. Удойная. Але, на яе ліха, абы толькі выпушчу на волю, так і наровіць у шкоду залезці. То ў чый агарод, то ў саўгасную кукурузу…

Аўцюк пасля дазнаўся: карова гадавалася ў старшыні калгаса. Прывыкла шкодзіць.

* * *

Занядужаў аўцюкоўскі брыгадзір. Ляжыць, стогне. Загадаў жонцы, каб ніякіх хадакоў не падпускала да яго.

Жонка:

– Пятрусь, да цябе фельчар прыйшоў.

– Скажы, што я хворы, сёння не прымаю.

* * *

Аўцючка просіцца ў загадчыка фермы:

– Адпусці, каласок, раней часу дамоў.

– Навошта?

– Я з канём дамовілася…

* * *

– Каласок, палячы, сярэдзіна баліць.

– Нагніся, – кажа фельчар.

Нагнулася баба, а лекар пытае:

– Лягчэй?

– Ага, каласок.

– Дак гэтак і хадзі.

* * *

Спазніўся аўцюк на апошні аўтобус. Што рабіць? Як заехаць дамоў?

Пайшоў у міліцыю, заяўляе:

– У нашых Вялікіх Аўцюках ёсць чалавек з аўтаматам. Але ён вам яго не аддасць…

– Як?! Адбярэм!.. – заяўляе дзяжурны.

Павезлі аўцюка ў Аўцюкі. Падводзіць аўцюк міліцыянераў да бюста воіну-вызваліцелю і паўтарае:

– У яго ёсць аўтамат, але ж я казаў, што ён вам яго не аддасць…



Рэкламны аддзел: narodnayav@gmail.com
тэл.: +375 29 8 444 725, +375 29 111 30 77, +375 17 237 20 78, +375 17 328-66-09

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.




У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 04.07.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 2635